*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 1 (23)
Студзень
2013 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

# ШТО ПАДАРАЖЭЭ?

## Цыгарэты

З 1 студзеня істотна падаражэюць цыгарэты.



Так, цыгарэты маркі «Магнат», «Мінск», NZ з 1 студзеня 2013 года будуць каштаваць 4 900 бел. рублёў, цыгарэты Alliance - 4 950 р., VIP - 7 500 р., Pall Mall - 7 900 р., Lucky Strike, Winston - 10 500 р., Kent HD - 12 000 р., Kent Nanotek - 12.500 р. і г.д.

Раней Міністэрства па падатках і зборах ужо папярэджвала беларусаў пра рост ставак акцызаў на цыгарэты з новага года. Стаўкі акцызаў на тытунёвую прадукцыю нізкага цэнавага сегмента вырастуць прыкладна ў 2,1 разы. Акцыз на цыгарэты сярэдняга коштавага сегмента павялічыцца амаль на 70%, вышэйшага цэнавага сегмента - прыкладна на 55%. У той жа час вытворцы і імпарцёры запэўніваюць, што кошты на цыгарэты ў бягучым годзе вырастуць не больш чым на 20- 30%.

## Камунальныя паслугі

З 1 студзеня 2013 года тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў Беларусі падвысяцца, паведамляе прэс-служба беларускага ўрада. Беларусам давядзецца больш плаціць за цяпло і гарачую ваду: тарыфы на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння ўзрастуць на 5% з 60.140 да 63 150 беларускіх рублёў за 1 Гкал. Таксама стане даражэй прыродны газ, які выкарыстоўваецца ў жылых дамах і кватэрах у ацяпляльны перыяд. Тыя беларусы, у каго устаноўлены індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы і (або) газавыя воданагравальнікі з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу, будуць плаціць не 341,7 рулёў за 1 м3 прыроднага газу, як раней, а 358,8 рублёў. Пры адсутнасці прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу і пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў прыродны газ будзе каштаваць 2044 руб. за 1 м2 агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц у ацяпляльны перыяд і 766,5 руб. – у летні.



Падаражэе і электрычнасць. Так, электрычная энергія ў жылых дамах (кватэрах),абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, па аднаставачным тарыфе будзе каштаваць 274,4 руб. за 1 кВт. гадз (раней Br 250, 6 за 1 кВт.гадз), па дыферэнцыраваных тарыфах - 192, 1 руб. за 1 кВт. гадз. у перыяд мінімальных нагрузак з 22.00 да 17.00 (раней 175,4 руб.) і 548,8 руб. за 1 кВт.гадз у перыяд максімальных нагрузак з 17.00 да 22.00 (раней 501,2 руб.).

## Чыгунка

З 5 студзеня ў сярэднім на 17% павялічацца тарыфы на перавозкі пасажыраў чыгуначным транспартам на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях Беларусі. Кошт 1 км праезду цягнікамі эканом-класа на рэгіянальных лініях павялічыцца з 60 да 70 руб., адной зоны - з 600 да 700 руб.



Дадзенае павышэнне коштаў Міністэрства эканомікі тлумачыць імкненнем скараціць стратнасць пасажырскіх перавозак чыгуначным транспартам агульнага карыстання ўнутры краіны.

## Бензін і дызпаліва

З 16 студзені 2013 года рознічныя цэны на аўтамабільнае паліва вырастуць у сярэднім на 5-7%. Гэта будзе першае, аднак далёка не апошняе павышэнне коштаў на бензін і дызпаліва ў гэтым годзе - «Белнафтахім» плануе падняць кошты на паліва да ўзроўню расійскіх. Акрамя таго, з 1 студзеня ў сярэднім на 20% выраслі стаўкі акцызаў на бензін, што таксама цягне за сабой рост коштаў на аўтамабільнае паліва. Такім чынам, будуць устаноўлены новыя рознічныя цэ-ны на наступныя віды аўтамабільнага паліва:



- ► бензін «Нармаль-80» - 7200 руб / л.;
- ► бензін АІ-92 - 7400 руб / л.;
- ► бензін АІ-95 - 7800 руб / л.;
- ► дызпаліва - 8000 руб / л.;
- ► дызпаліва «Еўра-5» - 8400 руб / л.;
- ► дызпаліва «Арктыка» - 9300 р./ л.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# З Калядамі!

*нагоды Раства Хрыстовага да вернікаў з калядным архіпастырскім пасланьнем зьвярнуўся першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, архіяпіскап Навагрудзкі і Паўночна - Амэрыканскі СЬВЯТАСЛАЎ (Логін).*



**Любыя браты й сёстры ў Хрысьце!**

Кожны год мы ўрачыста сьвяткуем дзень Хрыстовага Нараджэньня. Гэтае сьвята для хрысьціянаў вельмі важлівае, бо сам Госпад — другая асоба Сьвятое Тройцы — Сын Божы Ісус Хрыстос прыйшоў на Зямлю, каб пазьней прынесьці Сябе ў ахвяру дзеля збаўленьня ўсяго чалавецтва. Ад часу гэтае гістарычнае падзеі Хрыстова Царква ўзбагацілася мноствам Сьвятых людзей, якія па прыкладу Боскаму, самі сваё жыцьцё ахвяравалі Богу. Шмат такіх было і ў Беларускай Царкве. Беларускія Сьвятыя былі душой і гонарам свайго народу і на працягу стагодзьдзяў фармавалі духоўнае аблічча Беларускае нацыі. Абаронцы веры й Бацькаўшчыны жылі ў кожную эпоху, і цяпер маці-Беларусь мае такіх сыноў і дачок.

Беларусы-ліцьвіны, якія самі ці іхныя бацькі вымушаныя былі апынуцца ў замежжы, вывілі сваю любоў да зямлі дзядоў захаваньнем роднае веры, мовы й культуры, пабудовай Беларускіх храмаў, дзе ўзносяцца малітвы за волю Беларусі і за ейны народ. І ні канадзкія маразы, ні аўстралійская сьпякота ніколі не перашкаджалі ім радасна сустракаць Беларускія Каляды.

Далёка ня кожнаму Госпад дае сілы духу й магчымасьці змагацца за родную веру й свой народ, але ўсе зможам узьнесьці малітву за тых, хто пакутуе за праўду ў зьняволеньні й на выгнаньні, за ўсіх нашых суайчыньнікаў, што жывуць на Бацькаўшчыне й на чужыне. І хай калядні прыходзяць у кожную беларускую хату і радасна віншуюць:

Хрыстос нарадзіўся!
Слаўце Яго!

# Добрая навіна

Нараджальнасць у Магілёўскай вобласці павялічваецца, а дзіцячая смяротнасць і захворванні – зніжаюцца, з задавальненнем адзначаюць педыятры нашага рэгіёну. У мінулым годзе ў Магілёўскай вобласці з'явіліся на свет 12.678 малых. Гэта на 554 дзіцяці больш, чым у папярэднім, 2011. Прычым паказчык дасягаецца не толькі за кошт жыхароў буйных гарадоў. Практычна ва ўсіх раёнах вобласці адзначаецца падвышэнне ўзроўню нараджальнасці. Дэмаграфічная сітуацыя паляпшаецца у тым ліку за кошт санітарна-асветніцкай работы і павышэння якасці медабслугоўвання.



# У Магілёве скончыліся запалкі




У крамах горада – дэфіцыт запалак. На гэтую праблему падчас планёркі звярнуў увагу старшыня Магілёўскага гарвыканкама Станіслаў Барадаўка. Яна паўстала з-за таго, што пастаўшчык запалак ў абласны цэнтр – завод «Пінскдрэў» – перавёў сваю працу на перадаплату. Шматлікія крамы Магілёва не змаглі супраўдзіць свае заяўкі грашыма. Таксама, па словах прадстаўнікоў уладаў, штучны ажыятаж стварылі жыхары горада, якія актыўна скуплялі запалкі напярэдадні 21 снежня.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# Магілёўскія білборды




Білборды, якія рэкламуюць беларускую мову, з'явіліся ў Магілёве. Пакуль у горадзе ўсяго два такіх плаката. На адным з плакатаў намаляваны мужчына-бізнесмен і напісана *«Маё Першае слова «поспех». Якім Будзе тваё Першае слова на роднай мове?»*. На другім – хлопчык з сабакам і напісана *«Маё Першае слова «сябар». Якім Будзе тваё Першае слова на роднай мове?»*. Па ўсёй бачнасці, рэклама разлічана на тых, хто не размаўляе па-беларуску, бо першае слова на роднай мове ў большасці людзей – мама.

Дадзеная кампанія ў падтрымку беларускай мовы стартавала з пачатку 2013 года. Вядома, што яна разгарнулася не толькі ў Магілёве, але і ў іншых абласных цэнтрах: Мінску, Гомелі, Гродне.

Па словах спецыялістаў упраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Магілёўскага гарвыканкама, у ролі распрацоўніка і заказчыка рэкламы ў падтрымку беларускай мовы выступае Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*
Паводле 222.by




# ГАРЫМ!



За першыя 11 дзён Новага года ў Магілёўскай вобласці на пажарах загінула 8 чалавек. У ліку самых распаўсюджаных прычын узнікнення пажараў – бестурботнасць і халатнасць у адносінах да агню. Як правіла, адбываюцца гэтыя трагедыі з-за п'яных курцоў. Сёння гэтая шкодная звычка набыла новы змест – курэнне пад градусам ўсё часцей забівае не паступова, а імгненна.

Сёння шматлікія пажары, якія вядуць да гібелі людзей, узнікаюць з-за таго, што грамадзяне ігнаруюць элементарныя правілы бяспечных паводзін. Усяго па прычыне п'янства за мінулы год адбылося 182 пажары, на якіх загінулі 110 чалавек. У нецвярозым стане загінула 94 чалавекі, з іх 90 - па прычыне курэння.



19 снежня 2012 года ў в.Палавінны Лог Магілёўскага раёна ў нежылым доме адбыўся пажар, на якім загінулі трое мужчын і жанчына. Напярэдадні пажару ўсе чацвёра распівалі спіртныя напоі. Прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.



1 студзеня 2013 г на пажары ва ўласным жылым доме ў в.Навасёлкі Магілёўскага раёна загінуў мужчына 1970 г.н. (Грузчык УКП Жылкамгас). Прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні ў стане алкагольнага ап'янення.



5 студзеня 2013 года ўвечары паступіла паведамленне аб узгаранні прыватнага жылога дома ў вёсцы Сумарокава Магілёўскага раёна. У выніку пажару загінуў гаспадар 1972 г.н. (Мужчына не працаваў, пражываў адзін). Агнём часткова знішчаны дах, перакрыцце і маёмасць у доме. Прычына таго, што адбылося – неасцярожнасць гаспадара пры курэнні.

У большасці выпадкаў трагедыі атрымалася б пазбегнуць – былі б людзі ўважлівей у дачыненні да пытанняў уласнай бяспекі, і выявi кожны з нас хоць бы крышачку ўвагі і клопату да тых, хто знаходзіцца побач – суседзям, знаёмым, сваякам.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# Колькі патрэбна аграсядзіб?

Аграэкатурыстычных сядзіб у Магілёўскай вобласці становіцца ўсё менш. У 2012 годзе ў вобласці колькасць зарэгістраваных аграэкасядзіб знізілася да 201 з 218 у 2011 годзе. У 2010 годзе іх было каля 270. Такія аператыўныя дадзеныя абласнога ўпраўлення па фізкультуры, спорту і турызму. Але ў бліжэйшы час колькасць аграэкасядзіб можа яшчэ скараціцца, паколькі падрыхтаваны змены ва ўказ кіраўніка дзяржавы № 372 *"Аб мерах па развіцці аграэкатурызму ў Рэспубліцы Беларусь"*. У прыватнасці, плануецца ўдакладніць, што аграэкатурыстам можа называцца толькі той чалавек, які знаходзіцца ў сядзібе не менш за 24 гадзіны.

Катэгарычна не згодны з магчымымі зменамі ў заканадаўстве, распрацаванымі Міністэрствам спорту і турызму, актывісты аграэкатурыстычнага руху, лічачы іх ударам па развіцці сельскага турызму ў Беларусі.

*– Яны хочуць, каб знаходжанне турыста ў сядзібе было больш за 24 гадзіны або не менш за адзін начлег. Мы не згодныя ў корані з гэтай прапановай, выступілі супраць яе,* – адзначыў старшыня грамадскага савета па развіцці аграэкатурызму пры абласным упраўленні фізічнай культуры, спорту і турызму Сяргей Кулягін. *– Ні ў адной краіне свету такога няма, каб прымушалі турыста начаваць. Фіктыўна, вядома, можна ўсё гэта рабіць.*



Па словах С.Кулягіна, такая норма адсячэ шматлікіх турыстаў, якія вытрымаюць аднадзённы экскурсійны тур з наведваннем шэрагу месцаў і сядзіб.

Скарачэнне колькасці сядзіб, на думку С.Кулягіна, стала шмат у чым вынікам задзейнічання адміністрацыйнага рэсурсу пры іх адкрыцці:

*– Былі даведзены планы пад адміністрацыйным ціскам, якія трэба было выконваць. Аграэкасядзіб панаадчынялі, але многія былі непрацуючыя. Сёння паволі ўсё прыходзіць ў адпаведнасць, становіцца на свае месцы. Сёння мы зразумелі, што трэба не колькасцю браць, а рабіць упор на якасць прадастаўлення паслуг.*

Пры гэтым актывіст адзначае важнасць комплекснага і кластэрнага развіцця аграэкасядзіб, інфраструктуры, сэрвісу. У якасці станоўчага прыкладу ён прывёў запланаваны да рэалізацыі з 2013 года праект «Жывая вада» ва ўсходняй частцы Магілёўскай вобласці, дзе ўпор будзе рабіцца на экалагічны і паломніцкі турызм. Таксама ў вобласці будуюцца новыя сядзібы, з'яўляюцца аграэкатурыстычныя комплексы.

Што тычыцца колькасці аграэкасядзіб, то, па словах С.Кулягіна, сёння рэальна працуючымі можна прызнаць каля 80 з зарэгістраваных. Пры тым што ёмістасць рынку турыстычных паслуг вобласці дае магчымасць спакойна працаваць і канкураваць 300 - 330 суб'ектам гэтага віду турызму.

*Міхась БАРАЗНА.*

# За ласёй – турма



Незаконная здабыча двух ласёў у зялёнай зоне паблізу вёскі Галынец-1 Магілёўскага раёна, хутчэй за ўсё, прывядзе да крымінальнай адказнасці. Пра гэта паведамілі ў Магілёўскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

У раёне напярэдадні праводзіліся мерапрыемствы па барацьбе з браканьерствам. Супрацоўнікі міжрайінспекцыі па аператыўнай інфармацыі прыбылі на месца, дзе знайшлі двух ласёў, застрэленых браканьерамі. Шкода навакольнаму асяроддзю ацэньваецца ў 190 базавых велічынь. Цяпер праводзяцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы аматараў незаконнага палявання. У выпадку затрымання браканьерам пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да шасці гадоў.

Усяго за два тыдні надышоўшага 2013 года супрацоўнікі Магілёўскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выявілі шэсць парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

*Алесь СУВОРАЎ.*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.01.2013 г. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.




«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/